# АДКАЗ ГР. СЦЯПАНУ П.

Наша рэдакцыя атрымала пісьмо ад аднаго грамадзяніна з вёскі Крушыняны (Сакольскі павет), які падпісаўся Сцяпан П.

Вось пытанні Сцяпана П. з Крушынян:

*а) Ці ляпей жыць у сельскагаспадарчым кааператыве?*

*б) Ці палітыка партыі і ўрада накіравана зараз на будаўніцтва новых сельскагаспадарчых кааператываў. Ёсць прычыны меркаваць, што цяпер партыя і ўрад не будзе арганізаваць сельскагаспадарчых кааператываў, таму што вельмі многа ўдзяляецца ўвагі аднаасобнікам, не прыціскаецца кулакоў, а на VII пленуме аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі амаль нічога не гаварылася.*

* * *

Адказ на Вашае першае пытанне.

Дробныя аднаасобныя гаспадары не могуць выкарыстоўваць такіх машын, як трактары, камбайны, якія даюць вялікую прадукцыю і ашчаджаюць працу гаспадара. На аднаасобнай гаспадарцы нельга нават поўнасцю выкарыстаць коннай сеялкі. Дробная гаспадарка марнуе вялікую частку людской працы таму, што гэты самы чалавек павінен займацца і працай у полі, і працай у сваім маленькім кароўніку, і працай у свінушніку. Працуючы калектыўна, можна заўсёды працу разумна падзяліць. Той, хто мае зацікаўленасць да гадоўлі можа працаваць у кароўніку ці свінушніку, іншы можа мець ахвоту працаваць у садоўніцтве, дык можа займацца садам, трэці машынамі, чацвёрты коньмі і г. д.

Пры разумным падзеле працы будзе даваць больш даход і кароўнік, і свінушнік, сад і поле. Такім чынам чалавек вызваляецца ад штодзённай мітусні.

І другая справа. Аднаасобны гаспадар з'яўляецца бяссільным, калі не мае каня, альбо калі згіне яму конь, карова ці другая жывёліна. Вельмі цяжка яму прыходзіцца, калі наведае яго поле град ці суша. Ва ўсіх гэтых выпадках выкарыстоўвае аднаасобніка кулак.

У сельскагаспадарчым кааператыве ў такіх выпадках не з'яўляецца ён сам. У калектыве лягчэй, больш запасаў, больш усялякіх магчымасцей, і на такія выпадкі ёсць у кааператыве спецыяльныя рэзервы.

З усімі гэтымі справамі вяжацца справа вясковай жанчыны, яе лёс. Да гэтага часу праца жанчыны не дацэньваецца, хаця яна найбольш працуе пры дзецях, і пры кухні, і ў хляве, і ў полі. У калектыве праца жанчыны таксама ацэньваецца як праца мужчыны. Заплату грашыма, збожжам і іншымі прадуктамі жанчына атрымлівае сама і такім чынам уносіць уклад да сямейнага даходу на раўні з сваім мужам. Гэта забяспечвае жанчыне большую пашану ў сям'і.

Апрача таго ў кааператыве можна ляпей сарганізаваць апеку над дзяцьмі і старцамі.

Можна шмат прывесці аргументаў наконт таго, што чым больш сялян будзе ўступаць у сельскагаспадарчыя кааператывы, тым лепшыя і мацнейшыя будуць гэтыя кааператывы, тым ляпей будзе і для сялян, і для дзяржавы. Усім вядома, што соцыялістычная сельская гаспадарка, якая карыстаецца перадавой тэхнікай і планавай арганізацыяй вытворчасці, можа даць больш прадуктаў чым дробныя аднаасобныя гаспадаркі сялян.

Вядома, што ў нас ёсць яшчэ слабыя кааператывы і яны ганьбяць ідэю калектывізацыі.

* * *

А цяпер пастараемся паважаны Сцяпан П. адказаць на Вашае другае, даволі вялікае пытанне.

Усім вядома, што 8 месяцаў таму назад (у лютым) адбылося V пленум ЦК ПЗПР. Галоўнай праблемай Пленума з'яўлялася праблема сельскай гаспадаркі, праблема будаўніцтва соцыялізма на вёсцы. Пленум намеціла далейшыя задачы па калектывізацыі. Прадугледжана што ў 5-гадовым плане сельскагаспадарчыя кааператывы павінны ахапіць 25—30 працэнтаў сялянскай зямлі. Карацей кажучы на пленуме намечана галоўныя напрамкі нашай палітыкі на вёсцы на бліжэйшыя 5 гадоў.

VII пленум ЦК ПЗПР займалася не толькі сельскай гаспадаркай, а ўсімі галінамі народнай гаспадаркі, якія падпарадкаваны былі адной галоўнай думцы, а іменна: што і як зрабіць, каб павялічыць даходы ўсіх працоўных нашай краіны на 30 прац.

Вось таму сельскагаспадарчыя пытанні былі толькі малой часткай тых пытанняў, якія былі пастаўлены на VII пленуме.

Аднак на VII пленуме ясна пастаўлена пытанне калектывізацыі сельскай гаспадаркі. *«У галіне сельскай гаспадаркі і ў адносінах да сялян трэба з усёй рашучасцю працягваць палітыку намечану II з'ездам і V пленумам ЦК ПЗПР».*

Значыць VII пленум з'яўляецца працягам палітыкі V пленума адносна сельскай гаспадаркі і таму, паважаны Сцяпан П. — не было патрэбы на VII пленуме паўтараць усяго таго, што было сказана некалькі месяцаў назад на V пленуме. Напэўна ясна і Вам цяпер, што без выканання пастаноў V пленума не можа быць гутаркі аб поўным выкананні пастаноў VII пленума.

Трэба дадаць, што VII пленум яшчэ больш пашырыла і паглыбіла некаторыя праблемы V пленума ў галіне сельскай гаспадаркі. Гэта датычыць і нашых адносін да кулака. На пленуме было ясна пастаўлена пытанне каго называць кулаком, а пачынаючы ад новага года будуць адменены абавязковыя пастаўкі малака, будзе ўдзяляцца больш увагі прадукцыі кулацкіх гаспадарак.

Справа ў тым, дарагі Сцяпан П., што партыя і ўрад аказвае вялікую дапамогу і аднаасобным гаспадарам, таму што абавязкова трэба, каб не толькі сельскагаспадарчыя кааператывы прадукавалі як найбольш збожжа, але каб прадукцыя збожжа і ў аднаасобнікаў з кожным годам павялічвалася.

Нам нехапае свайго збожжа і таму амаль мільён тон збожжа наша дзяржава прывозіць з заграніцы. Вось таму, паважаны Сцяпан П. — партыя і ўрад аказвае многа дапамогі аднаасобным гаспадарам. Але гэта зусім не значыць, што партыя і ўрад не зацікаўлены ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Толькі VII пленум, якое адбылося пасля XX з'езду КПСС моцна паставіла пытанне добраахвотнасці сялян, справу законнасці на вёсцы пры арганізаванні сельскагаспадарчых кааператываў.

Старыя металы, метады адміністрацыйныя, якімі часта карысталіся арганізатары кааператываў, сёння ўжо не могуць быць ужыванымі, а новых метадаў пакуль што няма.

Партыйны актыў яшчэ не навучыўся пераконваць сялян у неабходнасці арганізаваць сельскагаспадарчыя кааператывы і баючыся каб не парушыць законнасці ў сваёй рабоце, зусім спыніў сваю дзейнасць па арганізаванні новых сельгаскааператываў.

Вось таму — дарагі Сцяпан П. — зараз не ўтвараюцца новыя кааператывы.

Аднак трэба спадзявацца, што з крызісу метадаў арганізавання кааператываў хутка выйдуць усе актывісты, якія не будуць падыходзіць да ідэі кожнага пленума, як да чарговай кампаніі.

М. ХМЯЛЕЎСКІ



Вёска Казлы. пав. Бельск.

Фото — Леў.

# Вечарынкі

Калі закончацца ўсе палявыя работы і настануць доўгія, асеннія вечары, — вясёлая беларуская моладзь пачынае арганізаваць свае традыцыйныя сходы, папулярна называныя вечарынкамі.

У некаторых мясцовасцях вечарынкі адбываюцца ў прадсвяточныя дні, а гэта дзеля таго, каб на другі дзень можна было спакойна і даўжэй паспаць, адпачыць пасля забавы, якая закончылася позна ноччу. У іншых вёсках пачынаючы ад новага года на працягу некалькіх тыдняў гэткія вечарынкі адбываюцца нават па 2 — 3 разы ў тыдзень.

Арганізаваннем вечарынак займаюцца дзяўчаты. Вось яны ўмаўляюцца на вечар і збіраюцца ў хаце адной з іх, прычым кожная дзяўчына бярэ з сабой нейкую ручную работу нп. вышываць або шыць сарочку, іншая ізноў бярэ клубкі нітак, з якіх на дратах вяжа рукавіцы ці панчохі, а часцей за ўсё яны збіраюцца з калаўроткамі і прадуць воўну, або лён .

Кожная дзяўчына прыносіць кавалак сала, хлеба, некалькі яек, смятану або іншыя прадукты, з якіх падрыхтоўваюць смачны і пышны пачастунак на вечарынцы.

Праўду кажучы, гэткія вечарынкі ні былі-б такімі абаяльнымі, каб толькі дзяўчаты прымалі ў іх удзел. На вечарынкі збіраюцца таксама і хлопцы з цэлай аколіцы, бо заўсёды знойдзецца дзяўчына, якая быццам так неахвотна, быццам у сакрэце паспее заўсёды паведаміць іх. Апрача таго прыходзяць удовы, удаўцы, жанатыя мужчыны і замужнія жанчыны. Яны сходзяцца не толькі для таго, каб прыпомніць маладыя, вясёлыя гады, але дзеля таго, каб весела правесці вечар, бо на вечарынцы ніхто не сумуе, ніхто з пустога ў парожняе не пералівае.

Можна сказаць, што ніякая моладзь у свеце не патрапіць так весела праводзіць доўгія, зімовыя, або асеннія вечары, як беларуская моладзь на вечарынках.

Асцярожныя жарты, смех, фіглі пераплятаюцца прыгожымі, лірычнымі, сумнымі песнямі, або паважнымі апавяданнямі.

Не бракуе тут і музыкі, часам нават танцуюць, але гэта ўжо рэдка бо моладзь больш за ўсё стараецца працавіта вечар правесці, каб была з гэтага нейкая карысць.

Вельмі-ж ужо хутка і спрытна ідзе праца дзяўчатам. Нічога здзіўляючага, бо гэта-ж хлопцы на іх глядзяць і ні так на іх самых, як на іх працу. Гэта вядома, што кожны хлапец толькі сярод найлепшых і найбольш працавітых шукае сабе жонку. Часта нават дзяўчаты ідуць у заклад, каторая з іх перш працу сваю скончыць.

Шмат чаго можна наслухацца на вечарынках.

А якія вясёлыя гісторыі расказваюцца аб папах - шалапутніках, якія гвалцілі вясковых жанчын, або аб хітрамудрых салдатах, якія праз дваццаць пяць гадоў службы ў царскім войску набралі столькі спрыту, што патрапілі і сваіх камандзіраў і нават самога цара ашукаць, а пасля таго, калі выйгралі нейкі заклад, або выканалі загад, — атрымоўвалі маёнтак і да самай смерці жылі шчасліва і багата.

Можна таксама пачуць шмат гісторый сурёзных, павучальных, у якіх гаворыцца аб тым, што справядлівасць пакарала злачынства і бандыцтва, шмат каларытных апавяданняў аб драконах, вампірах, ваўкалаках, русалках і іншых фантастычных, народных постацях. Іншы раз і да хаты страх вяртаецца.

Доўгі зімовы, або асенні вечар так хутка пройдзе, што неазірнешся, калі, нават ніхто не чуе, што недзе за вокнамі сцюжа, свет туманамі снегу заносіць, або дажджом залівае.

Нічога дзіўнага, што на аснове гэткіх вечарынак вялікая пісьменніца Эліза Ожэшковая апрацавала некалькі аповесцяў і навел.

Расказваннем гэткіх гісторый займаюцца пераважна старэйшыя жанчыны, гаспадары, а часта і маладыя хлопцы, бо нават найсвавальнейшыя з іх у прысутнасці старэйшых і дзяўчат патрапяць адпаведна паводзіць сябе.

Забавы таксама багаты ў гумар і дасціпы Калі хто-небудзь нешта неадпаведнае скажа або акажацца неадпаведным учынкам, — то яго зараз вывядуць за дзверы, а ў найлепшым выпадку дзяўчаты загадаюць, каб залажыў ногі на печ, або пацалаваў найдаўжэйшую і найбялейшую бараду ў хаце.

Колькі-ж намучыцца бедны хлапец пакуль усё гэта выканае. Кладзецца на падлогу; або (пераважна) на лаву і пхне нажыскі ўгору, а яшчэ горш, як пачне з гэтай «белай» барадой мітусіцца. А мог-бы хлапчына шмат складней развязаць усю справу.

Штука ў тым, што на печ хопіць залажыць ногі ад сталка, а пад сімвалам белай барады можна пацалаваць кудзелю.

Хлопцы ці гэта для веселасці, ці для таго, каб дзяўчат спужаць, — пераапранаюцца ў мядзведзяў, коз, жураўлёў смерць або д'ябла. Гэтак пераапранутымі прыходзяць у кватэры, спраўляюць усялякія жартоўныя забавы, танцуюць, а ўсё так падбіраюць, што людзі вельмі імі цікавяцца.

Асаблівую цікавасць выклікае гэта ў дзяцей і маладых дзяўчат.

Колькі-ж гэта дзяўчат, якія аказваюцца здольнымі і працавітымі на вечарынках павыходзіла замуж. А і хлопцы тыя, якія так цудоўна і ўмела расказваюць навучальныя апавяданні, загадкі, жарты — закранулі сэрца ні адной прыгожай дзяўчыне. Позна, вечарам усе разам сядаюць за стол каб падсілкавацца ежай якую кожны ўдзельнік вечарынкі прынёс з сабой. Пасля вячэры ізноў працягваецца вечарынка: спяваюцца песьні расказваюцца апавяданні, за апавяданнямі йдуць загадкі і праца працягваецца аж да позняй ночы. Калі ўжо 1 або 2 гадзіна — усе разыходзяцца.

Вельмі прыемна і весела ўмее праводзіць свае вечарынкі беларуская моладзь.

ЯКУБ АНТАНЮК

